



# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

**N 5-6**

ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

двухтыднёвая часопіс для меншых дзяцей

1933 г. № 5—6

ГОД выданьня 5

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы



# Парыская Камуна

18-га сакавіка 1871 году пралетарыят Парыжу скінуў буржуазную ўладу і стварыў сваю пралетарскую — Парыскую Камуну.

Пражыла Камуна ўсяго 72 дні, бо вялікія памылкі дапусьцілі былі камунары: пасьля захопу ўлады яны не адабралі ад буржуяў банкаў, далі магчымасьць буржуям уцячы з Парыжу і інш. А тыя сабралі вялікую сілу і задушылі Камуну.

Брук і тратуары парыскіх вуліц былі заліты крывёю камунараў. 30 тысяч забітых і звыш 40 тысяч асуджаных на высылку і ў турмы — вось як жорстка адплаціла буржуазія паўстаўшаму пралетарыяту. Разам з дарослымі загінула многа і дзяцей-камунараў.

Расійскі пралетарыят улічыў практыку Парыскае Камуны:—ён не дапусьціў тых памылак, што былі зроблены камунарамі.

**Дзень Парыскай Камуны зьяўляецца ў нас днём МОПР'у. Кожны з нас павінен стаць членам МОПР'у. Дапаможам змагаром за сусьветную Камуну, што гібеюць у буржуазных турмах!**






КАРЛ МАРКС

Сёлета, 14 сакавіка, споўнілася 50 гадоў з дню сьмерці гэтага найвялікшага настаўніка і правадыра працоўных усяго сьвету.

# ВЯЛІКІ РЭВАЛЮЦЫЯНЭР

## ЯК ЖЫЎ І ЗМАГАЎСЯ КАРЛ МАРКС

### ПЕРШЫЯ КРОКІ

Зірнеце на карту Эўропы. Знайдзеце там густа ўсыпаную гарадамі краіну, на якой вялікімі літарамі напісана: Германія. Знайдзеце галоўны горад гэтай краіны— Бэрлін. А лявей Бэрліну, каля самай Францыі, вам ня цяжка будзе адшукаць горад Трыр. (Папрасеце настаўніка—няхай ён дапаможа вам).

Вось у гэтым невялікім горадзе Трыры, у сям'і адваката Генрыха Маркса, і радзіўся сын, якога назвалі Карлам. Было гэта ў 1818 годзе, 5 мая.

Ужо з першых гадоў маленькі Карл заметна вылучаўся сярод дзяцей у сям'і, а таксама і сярод сваіх сяброў. Гэта быў жвавы, шустры, вясёлы хлапчук, вельмі добры таварыш. Вось чаму ён скора стаў важаком у сваіх сяброў.

Маці Карла Генрыэта ганарылася сынам і дзівілася з яго здольнасьці.

— За што ні возьмецца—усё ў яго добра выходзіць,— хваліла маці Карла.

А бацька, слухаючы гэта, гаварыў:

— Здольны то ён здольны, але пабачым, як будзе вучыцца?

Калі Карл пачаў вучыцца, бацькі крыху расчараваліся сын вучыўся ня лепш за другіх.

— Што тут за прычына? — скардзіўся бацька. — Карл здольны і мог-бы вучыцца лепш за другіх.

Маці апускала вочы ўніз, як бы саромячыся за свайго Карла.

А прычына была. Толькі пра яе бацькі ня скора даведаліся. Маленькі Карл, гімназіст, мала цікавіўся тымі навукамі, што выкладаліся ў школе. Кожны дзень у школе прымушалі зубрыць „закон божы“, слухаць байкі пра багоў і сьвятых, пра розных каралёў.



Фрыдрых Энгельс.

— Не, гэта не навукі, — парашыў маленькі вучань Карл.

І ён пачаў вучыцца найбольш сам. Без канца чытаў розныя кніжкі пра жыцьцё людзей. А чытаючы, многа думаў: правільна апісваецца ў той ці іншай кніжцы жыцьцё людзей, ці не?

Вось якія навукі цікавілі Карла. Вось дзе была прычына таго, што Карл па „закону божаму“ лічыўся „адсталым“.

Так пачаў расьці і разьвівацца будучы вялікі рэвалюцыянэр і мысьліцель Карл Маркс.

## БУНТ СУПРОЦЬ... КНІГ

Па сканчэньні гімназіі Карл паступае вучыцца далей. Ён едзе ў горад Бон, потым у Бэрлін. Там вучыцца ў вышэйшай школе — унівэрсытэце.

Так-жа сама, як і раней, найбольш цікавіцца кнігамі. А чытаючы, вельмі многа думае. Думае ўсё аб жыцьці людзей.



**Буржуі жывуць у раскошы, а рабочыя вымушаны жабраваць, паміраць з голаду і гінуць у турмах...**

Вось жывуць людзі. Але ці жывуць яны?— ставіць сабе пытаньне студэнт Карл. — Большасьць з іх ня жыве, а пакутуе. Гэтыя людзі абяздоленыя. Многа і цераз сілу працуюць, дачасна паміраюць ад голаду і холаду, а то дык і канчаюць жыцьцё самагубствам. Але ёсьць і такія, што жывуць добра: буржуі, памешчыкі, буйныя гандляры ды іншыя.

— Чаму гэта такая несправядлівасьць? — думае Карл.—Дзе прычына гэтай несправядлівасьці?

Прабуе знайсьці адказ у кніжках. Але чытаў ня менш паўгода і не знайшоў ніводнага адказу...

Злосьць разабрала на такія кніжкі. І аднаго разу Карл растрыбушыў усе свае кнігі. Узбунтаваўся супроць... кніг.

Потым прышоў да вываду: зрабіў няправільна. Ня так трэба рабіць. Трэба вывучыць усе навукі, прачытаць усе лепшыя кніжкі. А потым, на аснове гэтых ведаў, скласьці новую навуку, якая-б дапамагла працоўным перабудаваць свае жыцьцё і сьвет.

А гэта работа не на адзін год. Для гэтага варта аддаць усё жыцьцё. Так і зрабіў Карл. Ён сапраўды **аддаў поўнасьцю сваё жыцьцё для справы перабудовы сьвету**.

# КАРЛ МАРКС—ПРАВАДЫР ПРАЦОЎНЫХ

Унівэрсытэт Карл скончыў у 1841 г. І скончыў адным з лепшых. Стаў вучоным, даволі вядомым у Бэрліне.

Але сваіх здольнасьцяў Карл не аддаў буржуазіі. Ня стаў служыць у капіталістаў, абараняць іх інтарэсы.

У гэты час Карл ужо добра разабраўся ў тым, дзе прычына нядолі беднаты і раскошы багатых. **Прычына— у няроўнасьці людзей**. Адны, багатыя, маюць фабрыкі, заводы, маёнткі. Жывуць, нічога ня робячы. А другія нічога ня маюць. Працуюць на капіталістаў і памешчыкаў. І Карл зрабіў вывад:

— Трэба працаваць і змагацца, каб зьнішчыць гэтае зло—няроўнасьць, несправядлівасьць.

Карл становіцца рэдактарам адной газэты. Ён піша артыкулы, у якіх абураецца супроць каралеўскай улады,



**На здымку: кітайскія кулі (рабочыя—возчыкі). Іхная праца— катаржная праца. А такіх людзей у Кітаі мільёны...**

улады капіталістаў і памешчыкаў. Карл абараняе інтарэсы рабочых і сялянскай беднаты. Каралеўская ўлада ўбачыла ў асобе Карла свайго вялікага ворага. Яна закрыла газэту.

Карлу цяжка было працацаць пры такіх умовах. Ён едзе заграніцу—у Парыж. Там пачынае выдаваць рэвалюцыйную часопісь. У гэты час Карл Маркс ажаніўся на сваёй сяброўцы па дзіцячых гадох Джэньні.

У Парыжы кватэра Марксаў становіцца сапраўдным рэвалюцыйным цэнтрам. Тут зьбіраюцца ўсе лепшыя людзі таго часу — рэвалюцыянэры. Тут-жа Карл пазнаёміўся і з **Фрыдрыхам Энгельсам**, які стаў на ўсё жыцьцё найлепшым сябрам і таварышам Маркса.

Энгельс быў самым выдатным чалавекам таго часу. Праз усё сваё жыцьцё ён працаваў разам з Марксам, для аднае справы. Гэтыя два вялікія рэвалюцыянэры сталі вучонымі настаўнікамі і правадырамі сусьветнага пралетарыяту.

## ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

У Парыжы нядоўга пражыў Маркс. Нямецкі ўрад дабіўся ад французскага, каб Карла з Парыжу выслалі.

Маркс едзе з сям'ёй у сталіцу Бельгіі—Брусэль.

А калі ўлётку 1848 г. пачалася ў Францыі рэвалюцыя, Карл адпраўляецца ў Парыж. З Парыжу рэвалюцыя перакідаецца ў Германію. Карл сьпяшаецца сюды. Ён стараецца ўсюды пасьпець, усюды дапамагчы рабочым у змаганьні супроць буржуазіі.

Але рэвалюцыя была пераможана. На гэты раз Карл Маркс выехаў у Лёндан, дзе і жыў да апошніх сваіх дзён.

Яшчэ да пачатку Французскай рэвалюцыі арганізаваўся быў „Саюз камуністаў". Маркс і Энгельс становяцца кіраўнікамі гэтага саюзу. Яны пішуць вядомы свой



## ПАРЫСКАЯ КАМУНА

**На малюнку — барыкады камунараў.**

**Карл Маркс, жывучы ў той час у Лёндане, заўсёды быў разам з Камунай: ён чым толькі мог дапамагаў камунарам, як правадыр і настаўнік.**

„Камуністычны маніфэст“. У гэтым „Маніфэсьце“ яны ясна паказалі працоўным усяго сьвету правільны шлях. Гэта— шлях змаганьня супроць буржуазіі, за сваё вызваленьне. Канчаецца маніфэст такім баявым рэвалюцыйным заклікам:

**Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!**

## „Капітал“

Частыя пераезды з гораду ў горад былі вельмі цяжкімі для Маркса. Маркс і яго сям'я жылі зусім бедна.

Аднаго разу Энгельс зайшоў да Маркса на кватэру.

— Хадзем у бібліятэку,—запрасіў ён.

— Мне і самому туды трэба...

— Ну, дык апранайся.

Але Маркс ня сыходзіў з месца. Потым агледзеў сябе і засьмяяўся.

— Няма ў чым...

І сапраўды: боты яго зусім парваліся, гарнітур быў аддадзены ў заклад за пазыку...

А было і так, што не хапала грошай, каб купіць газэты, чыстай паперы. Аднак Маркс ніколі не сумаваў, не апускаў рук. Ён упарта працаваў і забываўся аб усім. У цяжкія хвіліны яму заўсёды дапамагаў Энгельс.

Над чым-жа працаваў Карл Маркс? Ён пісаў кнігі. Многа напісаў кніг. Але самая выдатная яго кніга, гэта— **„Капітал“**. Гэтую кнігу Маркс пісаў каля 40 гадоў. У сваім „Капітале“ Маркс ясна паказаў усяму сьвету, адкуль бярэцца багацьце, як нажываюцца буржуі з крыві і поту рабочых і дзе працоўныя павінны шукаць для сябе выхаду. Гэты выхад—у рэвалюцыі.

Памёр Карл Маркс у 1883 г., 14 сакавіка. Ён не дачакаўся перамогі пралетарыяту. А ён-жа ўсё сваё жыцьцё аддаў гэтай справе!

Але ў год яго сьмерці споўнілася 13 гадоў другому правадыру працоўных — **Леніну**. Ленін павёў працоўных па тэй дарозе, якую вызначыў Маркс. Апрача таго, Ленін разьвіў далей вучэньне Маркса. І працоўныя нашай краіны пад сьцягам Маркса — Леніна перамаглі буржуазію.

Дзевяць гадоў таму назад памёр і Ленін. Але справа Маркса—Леніна жыве. Гэта справа знаходзіцца ў верных руках Камуністычнага Інтэрнацыяналу, якім кіруе тав. **Сталін**, лепшы вучань Леніна.

**Упарта, настойліва, як Маркс і Ленін будзем ВУЧЫЦЦА, каб стаць добрымі будаўнікамі сацыялізму.**





# АДЗІН З ЛЕПШЫХ

Нарыс М. Багуна і Р. Кобеца
— Малюнкі Н. Гусева —

Калгас імя Фэлікса Дзяржынскага — прыгарадны калгас. Ён лічыцца адным з лепшых калгасаў на Меншчыне. За апошні год гэты калгас дабіўся вялізарных посьпехаў. Калгасьнікі сапраўды зажылі па-новаму. Калгас імя Дзяржынскага адным з першых выканаў і перавыканаў хлебазагатоўкі, адсыпаў збожжа на насеньне. Кожны калгасьнік за сваю працу атрымаў многа збожжа і грошай.

Гэтага калгас дабіўся ў выніку дружнай работы і змаганьня супроць ворагаў—кулацтва і іх прыхільнікаў.

Такія вялікія прыбыткі можа мець і павінен мець кожны калгас. Для гэтага патрэбна:

— Добра падрыхтавацца, добра правесьці сяўбу.

— Змагацца за высокі ўраджай.

— Выкрываць і выганяць з калгасаў усіх нашых ворагаў—шкоднікаў калгасу.

— Дружна, сумленна працаваць усім калгасьнікам.

— Зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі *(І. СТАЛІН)*.

Такія галоўныя задачы ставіць перад калгасамі партыя і ўлада.

Шырокі ўзмах рукі—і чорная струкаватая шапка старшыні калгасу імя Дзяржынскага насунулася на самыя вочы.

— Падлічэце!

Суха заляскалі лічыльнікі.

Рахункавод можа ў соты раз падлічаў і нездаволена бурчэў:

— Падлічэце! Колькі ня лічы—менш не налічыш. Як падлічылі першы раз, так выходзіць і цяперака: пяць з паловай кілёграм бульбы на працадзень, семсот грамаў жыта, шэсьцьсот пяцьдзесят—ячменю і там—буракі, гарох ды інш... Гэта апрача грошай.

— А грошай?

— Грошай? на працадзень—шэсьць рублёў.

— Ня дрэнна.

Рыпнулі дзьверы. У кантору ўвайшоў старав̆аты, кульгавы чалавек. Агледзеўшыся, ён, накульгваючы на адну нагу, падаўся да рахункавода.

— Ну, дык як там у мяне?—запытаўся стары ў рахункавода.

— Ды ў вас добра: калі лічыць, што вы атрымалі за гэты год тры тысячы руб. наперад, дык вам яшчэ належыць больш як чатыры тысячы...

— Вагон грошай!—усьміхнуўся старшыня.

— Вядома, вагон,—таксама ўсьміхнуўся стары.—Але-ж у мяне і вагон працадзён... Што заробіш, тое і атрымаеш!

— Чулі?—зноў усьміхнуўся старшыня.—Вось знаёмцеся: адзін з лепшых нашых калгасьнікаў—тав. Савіцкі. Пагутарце з ім,—сказаў да нас старшыня.

Пяць хвілін гутаркі—і вось мы, нібы добрыя знаёмыя, ідзем ужо з таварышам Савіцкім па вуліцы.

Пад нагамі смачна хрусьціць сьнег. Мінаеш адну вуліцу, другую і ўпіраешся ў высокі доўгі будынак.

— Стайня наша,—тлумачыць стары,—новай будоўлі... цёпла ў ёй цяперака, што ў той хаце. Сын тутака мой, за канюха...

Насупроць стайні, пад новай дашчанай паветкай, выстраіліся доўгім радам калёсы, падрыхтаваныя да выезду на работу.

— Бачыце: як у той пажарнай. Трэба: запрог каня— і паехаў. Сын тутака мой працуе. Вельмі-ж ён парадак любіць...

Агледзеўшы стайню і паветкі, рушылі далей. Па дарозе стары расказвае нам пра сваё жыцьцё-быцьцё калгаснае. З гонарам гаворыць ён пра калгас, пра сваю сям'ю, пра работу і шчыра запрашае:



**— Стайня наша,—тлумачыць стары.**

— Пойдзем да мяне ў хату. Убачыце, як жыву, пагутарым.

Пайшлі.

Сярэдніх памераў звычайная сялянская хата. Каля стала чалавек восем-дзевяць мужчын і жанчын. Пераважна моладзь.

— Вось гляньце — сямейка мая невялічкая, — дабрадушна сказаў Савіцкі.—Два сыны, тры дачкі, старая ды я—свой, значыць, хатні калгас. Сядайце, калі ласка.

Садзімся. Завязваецца жывая гутарка. Але гэта толькі спачатку, бо потым гаворыць толькі стары, а мы слухаем.

— Вось бачыце, гэтак і жывём. Некаторыя зайздросьцяць: сем тысяч з лішкам грошай зарабіў за год, апрача прадуктаў і ўсяго там іншага. Вядома, зарабіў: адзін сын працуе, дзьве дачкі працуюць ды я сам ад іх не адстану,—дарма што мне пяцьдзесят дзевяць гадоў. Пяць чалавек, гэта, значыцца, пяць працадзён, а то, дык і больш выходзіць. Вось і вылічце—колькі за год набяжыць! Шмат, кажуць, я атрымаю?! А як-жа інакш? Шмат зарабіў—шмат і атрымаў. Яно, праўду, кажучы, дык і калгас таксама мацнейшы стаў. Гэта-ж табе не свая гаспадарка: пакуль там на што ўзаб'ешся, дык і душа з цябе вылезе... Быў я на сваёй гаспадарцы, ведаю: круцішся, бывала, ад зары да зары, а толку мала: там зламалася, там пабілася, там папсавалася... Ня ведаеш, за што і ўхапіцца. А калі, вунь, хата згарэла была, дык і зусім ня ведаў што рабіць.

— Так ось і да калгасу круціўся, а тады ўжо лепш стала, вальней. Спачатку я, папраўдзе кажучы, крыху і баяўся: а што, думаю, калі з усяго гэтага ды нічога ня выйдзе? Але мала-памалу, па-крысе, значыцца, маёмасьці дадалі, кароў дакупілі, будынкі новыя паставілі, гароды ўпарадкавалі... У нас, ці ведаеце, усё больш наконт гародніны.

— Ня ўсё, праўда, адразу добра стала: прыходзілася і палаяцца: ураўніла ўка гэтая самая шкодзіла шмат. Працадні адразу пісалі ўсім аднолькава, а працавалі па-рознаму: адзін добра працуе, сумленна, а другі абы як, абы дзень да вечара: ці зрабіў што, ці не зрабіў, а працадзень яму запішы. — Ну, яно, вядома каму і крыўдна было. Лаяліся. І так—аж пакуль не надумаліся перайсьці на норму. Зробіш сваю норму—запішуць працадзень, меней зробіш—меней запішуць, нічога ня зробіш—нічога не запішуць. Так яно і выходзіць—што зарабіў, тое і атрымаеш. Як толькі завялі гэткі парадак—адразу праца спарней пайшла: тутака ўжо ня ўкруціш!.. Але праз колькі часу зноў пачалося: норму мы вызначылі аднолькавую, але кожны яе выконваў па-рознаму. Адзін добра ўзарэ сваю норму, а другі ўзрэхаў наробіць, каня зморыць, збрую парве... Якая з гэтай працы карысьць? От і пачалі мы па менш плаціць за гэткую працу, а то дык і перарабіць прымусім. Не, што не кажэце, а мне тутака, у калгасе, лепей: працаваць лягчэй і карысьці куды больш.





# ПЯТРО ДЗІДУСЬ ВЯРНУЎСЯ

У лютым месяцы ў Маскве адбыўся 1-ы Ўсесаюзны зьезд калгасьнікаў-ударнікаў. На гэтым зьезьдзе калгасьнікі-ўдарнікі дзяліліся вопытым свае работы. Вось што расказаў адзін з дэлегатаў гэтага зьезду, украінскі калгасьнік Трахім Планса.

— Ёсьць у нашым калгасе Пятро Дзідусь. Летась мы выключылі яго з калгасу. Дзідусь ня кулак, але іначай зрабіць мы з ім не маглі. І ён, і жонка яго гультаявалі.

На работу Дзідусь з жонкаю ня выходзілі і гэтым падрывалі нашу справу. Пад кулацкую дудку скакалі. Ну, прышлося выгнаць такога.

— Пройдзе год, наш калгасны год, і ты пабачыш, Пятро, — сказалі мы яму,—што

дасьць калгас нам і што дасьць табе твая гаспадарка.

Гэты год працавалі мы па-бальшавіцку. Дружна ўсеяліся, з поля сабралі хлеб бяз страт. Вартаваць збожжа паставілі надзейных калгасьнікаў.

Хлебазагатоўкі мы першыя выканалі ў раёне. Мясазагатоўкі таксама. Абавязак перад дзяржаваю ў нас на першым месцы.

Зараз да вясны падрыхтаваліся так добра, што некаторыя калгасы аж зайздросьцяць нам. Усё насеньне ўжо ссыпана і ахоўваем яго сумленна. Вытворчыя брыгады ліквідавалі абязьлічку, кожная ведае свой вучастак, ведаю сваю рабочую і цягавую сілу. Інвэнтар увесь адрамантаваны.

І вось прайшоў год. Параўнаем жыцьцё калгасьніка і аднаасобніка Дзідуся. Паглядзім цяпер, што ў каго вышла. У нас на працадзень прыходзіцца амаль 3 клгр. збожжа ды столькі, калі ня больш, другіх прадуктаў. Амаль у кожнага калгасьніка свая карова. А калгасная сьвінафэрма пра-

дала калгасьнікам па дзяржаўных цэнах 53-е парасят.

Жывём мы цяпер добра. Вось я, напрыклад, выпрацаваў 258 працадзён, а з сям'ёю—500. Аднаго хлеба атрымаў 80 пудоў. Цяпер падлічэце прыбыткі ад калгаснага гандлю, ад жывёлагадоўлі.

Гэта ў нас, у калгасьнікаў. А што ў Пятра? Увесь год ён перабіваўся з хлеба на ваду. Бачыць, нічога ня выйграў. Прыходзіць да нас.

— Прымеце ў калгас назад. Цяпер я ўбачыў, што на вашым баку была праўда, што толькі ў калгасе — ратунак для селяніна. Каб ня слухаў кулакоў, дык не пакутваў-бы так у гэтым годзе...

Мы зноў прынялі Дзідуся. Калгасны лад, калгасная праца перамаглі яго. Працуе Дзідусь цяпер старанна, сумленна.

# Сяўба



Поўніцца неба
Сьпевам птушыным,
Поўняцца нівы
Гудам машынаў:

Гэта на поле
Ўсім калектывам
Вышлі мы сеяць
Шырокую ніву.

Сьпераду трактар,
Нібы важаты,
Важна шагае,
Пыхціць зухавата.

Сьледам за трактарам
Спорна і скора
Адна за другою
Мільгаюць разоры.

А неўзабаве
Па сьвежай ральлі
Поўныя збожжа
Сявалкі пайшлі.

Сыплецца чыстае
Зерне дажджамі,
Ў мяккую глебу
Кладзецца радкамі.

* * *

Скончылі працу
Вучні у школе,
І наўздагонку
Сьпяшаюцца ў поле.

— Татачка, татка, —
Просіцца Грышка, —
За бараною
Прайсьціся дай крышку!

— Добра—згаджаецца
Бацька з уцехай, —
Толькі, глядзі,
Не зрабі мне узрэхаў...

Бо, дзе пакінеш
Такія ты знакі —
Збожжа напэўна
Сядзе там макам.

Радасны Грышка,
Вясёлы, шчасьлівы.
За бараною
Сочыць рупліва.

Рады і бацька,
Цешыцца зьменай:
Шчыры калгасьнік,
Робіць сумленна.

Грышкаў таварыш —
Шустры Вася —
Да трактарыста
Прымайстраваўся.

***

Дзень прамінуўся
Тут на палетку,
Нібы за кніжкай,
Так неўзаметку.

Скончылі працу,
І ўсім калектывам
Мы пакідалі
Засеяну ніву.

Хай вырастае,
Хай каласіцца,
Густа ды буйна
Жыта й пшаніца!

А. Я.



# Галодныя і Голыя

## Як жыве сялянская беднота ў Заходняй Беларусі

**З кожным днём пагаршаецца жыцьцё сялянскай бедноты за мяжою. Непасільныя падаткі выцягваюць з бедноты апошнія капейкі. Цэны на сялянскія прадукты вельмі нізкія, а падаткі вялікія.**

**Усё лета працуюць сяляне на сваіх вузкіх палосках, на кавалачках зямлі, заарандаванай у пана, а ўзімку галадаюць, ходзяць абадранымі, голымі. А многія з іх зусім ня маюць зямлі.**

**Вось што апавядае ў сваёй справаздачы польскі камісар па перапісу. Надрукавана гэта справаздача ў адной Варшаўскай буржуазнай газэце.**

Я зайшоў у невялічкую хатку. Гэта хатка ледзь трымаецца на месцы, і вось — вось можа разваліцца. У хаце жыве сям'я з 11 чал., у тым ліку дзевяцера дзяцей (самаму старэйшаму—14 гадоў).

У хаце страшэнная халадэча. Сядзяць усе босыя ў кутках, па двох, па троіх, укруціўшыся коўдраю. Вопратка на іх парваная, адно лахмоцьце, а чацьвёра дзяцей адзеты толькі ў палатаныя кашулі.

Дастаў я свой ліст для перапісу, абвёў вачыма хату, а сесьці і няма на чым. Пытаю:

— Чаму вы ня паліце ў хаце? Гэта-ж памерзнуць дзеці.

Гаспадыня адказвае:

— Няма чым паліць. Дзеці і мы ад учарашняга дня нічога ня елі. Учора суседзі зьлітаваліся,—прынесьлі некалькі бульбінак, я зварыла іх, а сёньня нічога ня маем.

Я пытаю ў няшчаснага гаспадара, чаму ён так жыве.

Мал. М. Паўлоўскага



У буржуазных краінах галадаюць мільёны дзяцей.

— У вас-жа ёсьць зямля. Хай-бы вы што-небудзь сеялі, рабілі, каб не загінуць ад голаду.

— Гаспадар мне апавядае:

— Некалькі гадоў назад я меў гаспадарку і хлеб. Я арандаваў тут у пана 15 гэктараў зямлі. Умову з панам на карыстаньне гэтай зямлёй заключыў яшчэ мой бацька 46 гадоў назад. Памёр бацька, і граф судовым парадкам адабраў у мяне зямлю. А без зямлі я стаў жабраком...

Адгэтуль я перайшоў да суседа. І тут убачыў тое-ж самае. За маленькім столікам сядзіць гаспадыня і яе пляменьніца. У кутку стаіць невялікая худая карова. У сьценах сьвіцяцца шчыліны.

— А што гэта за яма з саломай пасярод хаты?—мільганула ў мяне думка. Прыглядаюся ўважліва. Відаць—5 галоў. Гэта гаспадар і чацьвёра пачарнелых ад голаду дзяцей ляжаць у саломе і ня могуць устаць.

Пачынаю гаварыць з гаспадыняй. Гаспадыня кажа, што і яны арандавалі 10 гэктараў зямлі ў пана. Але ня было чым падаткаў заплаціць і пан адабраў зямлю, а іх зрабіў жабракамі, асудзіў на галодную сьмерць.



# КРЫЛАТЫЯ ГОСЬЦІ

Зрабіў дзед з дошчачак скрынку, прарэзаў на адным баку круглае вакенца і сказаў.

— Гатова кватэра.

— Што гэта ты, дзядуля, зрабіў?—спытаў маленькі ўнук.

— Вясна надыходзіць, унучак, скора шпак прыляціць. Вось я для яго і стараюся. Асталюецца шпачок жыць у шпакоўні, а за кватэру будзе нам песьню сьпяваць ды агарод і сад вартаваць.

— Як-жа гэта шпак вартаваць будзе?

— А вось як, слухай:

Завядзецца ўвесну на агародзе многа чарвякоў, жучкоў ды ўсялякае вусені.

Усе гэтыя шкоднікі аб'ядаюць капусту, агуркі, садавіну. А шпак са сваёю сям'ёю толькі за адзін дзень зьнішчае нязьлічонае мноства гэтых шкоднікаў.

— Ну, а цяпер давай прымацуем шпакоўню.

Выбраў дзед на дрэве тоўстую галінку, моцна прывязаў шпакоўню да ствала ды кажа:

— Ну вось і гатова. Цяпер чакайма гасьцей.

**ДЗЕЦІ!**

**Як вы сустрэнеце сёлета шпакоў? Ці падрыхтавалі вы для іх кватэры?**

**Беражэце птушак,—яны ахоўваюць нашы палі, сады і агароды.**

# ДЗЕЛІМСЯ ВОПЫТАМ

## Наладзілі работу—павялічыўся рост

**Летась у 1-й ФЗД (Магілеў) мала цікавіліся акцябрацкаю работаю.**

**У гэтым годзе савет базы ўзяўся за работу.**

**Дрэнных важатых зьмянілі і выбралі лепшых. А ў выніку добрай работы мы вырасьлі: 150 новых акцябрат уступіла ў базу.**

**Па прыкладу першай ФЗД і другія базы Магілеўскага раёну праводзяць работу з акцябратамі. У іх таксама пачаўся рост. Так, база мэблявай фабрыкі вырасла на 30 акцябрат, база хлебазаводу—на 30 акцябрат, база заводу „Чырвоны адраджэнец“—на 10 акцябрат, а база заводу „Пралетары“—на 35 акцябрат.**

**Дзяткор Д. КАНІШЧЫКЕР.**

## ЛЕПШЫЯ ЎДАРНІКІ ВУЧОБЫ

Вучні 2-й групы Міханаўскай ШКМ—**Буры Ўладзімер, Крук Марыля, Бурая Вера і Плашчынскі Міхась**—спачатку навучальнага году абвясьцілі сябе ўдарнікамі вучобы і дысцыпліны. Яны ўсе добра змагаюцца за вучобу.

У першым паўгодзьдзі навучальнага году ўсе яны пасьпявалі па ўсіх прадметах. Яны ўважліва слухаюць настаўнікаў у час лекцый, а таксама добра рыхтуюцца дома.

А калі добра падрыхтуюць заданьні, тады ідуць гуляць.

**З. Б—Н.**

# Яны перашкаджаюць вучыцца

У другой групе нашай Міханаўскай ШКМ ёсьць два такія вучні, што самі ня хочуць вучыцца і другім перашкаджаюць. Гэта — **Прахорчык Уладзімер і Долгаў Янка.** Прахорчык Уладзімер, дык аж трэці год сядзіць у другой групе.

Гэтыя вучні ўвесь час на лекцыях гутараць між сабою, дурэюць. Гэтым самым яны перашкаджаюць займацца другім.

На кляскоме і на агульным сходзе групы вучні пастанавілі: рассадзіць Уладзімера і Янку паасобку, а таксама напісаць пра іх у часопіс „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“, як пра зрыўшчыкаў вучобы.

**Буры Ул., Крук Марыля і Бурая Вера.**






Нарыс А. Падгорнага

Дзіцячымі галасамі зьвініць школьны сад. Для ўсіх вясна прынесла радасьць і новыя турботы. Захадзілі каля сьвірноў, каля хлявоў калгасьнікі. Работа ў гаспадарцы заўсёды знойдзецца, а цяпер тым больш. Рана араць яшчэ, дык гной можна затое вазіць. І вельмі-ж гэта добра раніцамі па падмёрзлай зямлі. Як па шашы, грухацяць калёсы.

Настаўнік Мікола Цімохавіч таксама рыхтуецца сустрэць вясну як сьлед. Пакуль распачнецца работа на школьчым агародзе, ён працуе ў садзе.

Невялікі сад каля Затонскай школы. Але калі яго дагледзець як сьлед, дык увосень нямала наабіраеш яблыкаў і грушаў. Летась сад амаль бяз догляду быў, ды і то колькі насушылі ўсякіх пладоў для школьных абедаў!

Учора Мікола Цімохавіч агледзеў школьны сад ды кажа сваім вучням:

— Пойдзем, дзеці, заўтра сад ачышчаць.

— Як гэта ачышчаць?

— Што рабіць будзем?

— Навошта гэта патрэбна?

І Мікола Цімохавіч расказаў вучням усё пра садовых шкоднікаў, пра належны догляд за садам.

* * *

Назаўтра разьмеркаваў настаўнік сваіх вучняў па брыгадах. Большых у адну, меншых—у другую. Тут работа ўсім знайшлася.

Закіпела праца ў школьным садзе. Кожны брыгадзір стараецца зрабіць даручаную работу як найлепш, бо брыдка будзе перад таварышамі, калі працу дрэннаю прызнаюць.

Янка-брыгадзір з трыма большымі, дужэйшымі вучнямі адпілоўваюць сухія, непатрэбныя сучкі. Часам настаўнік паказвае ім, дзе густа спляліся галінкі і трэба выразаць і здаровыя. Радзейшымі будуць, дык больш даходзіць сонца будзе, здаравей будзе галінкам. За работаю гэтай брыгады наглядае сам Мікола Цімохавіч.

Другая брыгада ачышчае ствалы дрэў ад сухой кары.



Яны аскрабаюць гэтую кару, зьмятаюць і зносяць на агонь. Хай гараць шкоднікі, што пахаваліся ў шчылінках кары!

Усьлед за імі ходзяць з вядром і пэнзалем вучні 3-й брыгады ды беляць вапнаю ствалы дрэў. Тыя шкоднікі, што засталіся яшчэ на дрэвах, будуць зьнішчаны вапнаю.

Міхаська разам з настаўнікам падабраў сабе брыгаду з лёгкіх, паваротлівых хлапцоў. Як ваверкі, яны лазяць па дрэвах—абіраюць сухія лісточкі і маленькія клубочкі павуціны.

Ніхто з вучняў і ня ведаў, пакуль настаўнік не расказаў, што ў гэтых лісточках чарвячкі жывуць, а з іх потым разводзіцца вусень на дрэвах. Сабраныя лісточкі, павуціньне таксама спальваюць. Ня вырвуцца шкоднікі жывымі: з усіх бакоў пайшлі на іх у атаку вучні.

Дзяўчаты таксама шчыра працуюць. Мікола Цімохавіч усім даў работу. Яны падмятаюць сад ад сьмецьця, ад леташніх лістоў, рознага бруду. Яны абкопваюць навакол дрэў зямлю. Будзе чысты сад—ня будуць розныя шкоднікі заводзіцца, добры ўраджай дадуць дрэвы.

— А я і дома, каля хаты, ачышчу наш сад,—кажа Янка.

— І я. У нас толькі чатыры яблыні, але ўсёроўна ачышчу,—дадае Грышка да янкавых слоў.

— Трэба ачысьціць кожнае дрэва, бо калі ня ачысьціць, дык шкоднікі на ачышчаны сад пяройдуць, — гаворыць настаўнік.—Заўтра скончым аглядаць свой сад ды калгасу паможам, а то іх ужо тры гады, казаў старшыня, ня чышчаны.

— Пойдзем, пойдзем,—ра́дасна сустракаюць прапанову настаўніка вучні.

— Трэба, каб усе сады былі ачышчаны.

Кіпіць работа... Здалёк відаць пабеленыя дрэвы школьнага саду. Глядзяць вучні на зробленую работу, і самім радасна становіцца: яны ахоўваюць свой сад ад шкоднікаў, яны думаюць пра лета, пра восень, яны стараюцца мець большы ўраджай пладоў.




Апавяданьне М. Цэлеша
Малюнкі Ц. Кіпніса

Лявонка ўжо амаль што мужчына! Хаця па гадох ён яшчэ і малады (скончылася ўсяго трынаццаць год), але выгляд у яго дарослага чалавека. Нездарма-ж яму было даручана ўлетку пасьвіць цялят! Мала чаго—і патраву можа зрабіць, і цялят недагледзіць, і воўк каторага яшчэ сьцягне, ды і самога напудзіць. Але з Лявонкам нічога гэтага ня здарылася. Праўда, ваўка ён бачыў ня раз.

Пакліча Лявонка Галуса, шэрага вялізарнага сабаку, зьбярэ цялят і пагоніць іх куды-небудзь на дзялянку, дзе больш сакавітага мурагу. Галус ідзе за ім сьледам, высунуўшы чырвоным касьнічком язык. Любата было ў полі: кветкі, птушкі, казюлькі і пчолы,—усе яны напаўняюць паветра сьпевамі, гудам і пахам...

Настала восень. Цялят заперлі ў хлеў, а даглядаць за імі стаў бацька Лявонкі. Галуса паставілі на ланцуг, а самога Лявонку паслалі вучыцца ў сямігодку. Трохі сумней стала, але нічога! Лявонка шчыра ўзяўся за навуку і часова забыўся пра цялят і пра Галуса...

Надышлі зімовыя канікулы. Адпусьцілі Лявонку на два тыдні. Спадзяваўся Лявонка адпачыць за гэты час, з Галусам пагуляць. Але—якраз захварэў бацька. І назаўтра ж маці загадала Лявонку:

— Ідзі, мае дзеткі, насячы дроў ды цялят напой! Ня злазіць-жа хвораму бацьку з печы! А мне некалі.

З ахвотай насек Лявонка дроў. Потым падышоў да Галуса, пагладзіў яго па галаве, даў кавалачак хлеба. Галус лізнуў яго ў твар. Ад сабачае будкі Лявонка пайшоў важна, вялікімі крокамі, як сапраўды дарослы, у абору. Цяляты глядзелі на яго чорнымі, бліскучымі, як шкло, вачыма, нібы не пазнавалі.

Лявонка абышоў яські, паглядзеў, ці ўсё зьедзена сена і заўважыў, што адна цялушка „Рабулька" да сена не дакранулася. Гэта была яго любімая жывёліна. Яна і ўлетку адрозьнівалася ад іншых: была ціхая, пасьвілася добра і не ўцякала дадому. А зараз чамусьці ня есьць!? Лявонка заўважыў, што з яе вачэй і гной цячэ. Шкада стала Рабулькі. Ён узяў яе за пысу, пашчыкатаў за вухам. Рабулька лізнула яго за руку, мусіць, успомніла, як пастушок частаваў яе ўлетку кавалкамі хлеба. Раптам ён убачыў вялікую дзірку пад сьцяной. „Што-б гэта магло быць?" падумаў ён. „Ня іначай, зьвер падкопваўся!" Але лішне на ўвагу ня ўзяў гэтага.

Усьлед за гэтым ён паставіў на санкі цэбар і паехаў па ваду.

Усе цяляты добра напіліся вады, а Рабулька і языка не памачыла. Тады Лявонка прынёс сена, узяў гарнец з мукой і зрабіў для Рабулькі запарку.

Рабулька пачала есьці месіва, а Лявонка стаяў ля яе, глядзеў, ці добра есьць, ды ласкава гладзіў па сьпіне. Рабулька ў знак прыемнасьці махала тонкім хвастом...

Цэлы дзень Лявонка хадзіў па двары, нават не садзіўся вучыць урокі, парашыўшы, што з гэтым ён яшчэ справіцца ўвечары. Часта заходзіў у хлеў даведацца, што з Рабулькаю. Усё баяўся, каб яна ня была галоднай, каб не захварэла яшчэ горш, каб хутчэй паправілася. Падвечар супакоіўся: Рабулька зьела ўсё месіва.

Увечары Лявонка сядзеў за сталом, вучыў урокі. На печы стагнаў бацька. Думкі пра Рабульку ня выходзілі

з галавы. Але з урокамі справіўся ён хутка, нават хутчэй, чым у іншыя дні.

Вось і спаць ляглі... Патушылі лямпу. Матка хутка захрапла на ложку. Але Лявонку ня сьпіцца: стогне ўсё бацька. Раптам ірвануўся на ланцугу Галус, заскігатаў, заліўся гарачым брэхам. Лявонка прыслухаўся, падумаў, што нехта ідзе па вуліцы. Але нічога ня чуваць. Толькі ляпае адарванай дошкай вецер на страсе...

А Галус ня сьціхае. Усё горш і горш залівaецца брэхам, рвецца на прывязі, скача каля будкі, аж зьвініць ланнуг. Матка сьпіць моцна. Стогне бацька... Хочацца пабудзіць яму матку. Карціць Лявонку, чаго брэша сабака? Ён услухоўваецца ў брэх і пазнае па голасе сабакі, што той брэша так на зьвера. Ён добра ведае свайго Галуса.

І тады яму ўспамінаецца Рабулька, успамінаюцца частыя падкопы пад хлеў, калі ваўкі душаць жывёлу.

„Як яна там, што з ёю“? думае сабе Лявонка.

А сабака яшчэ горш ірвецца на ланцугу. Тады Лявонка ціханька падымаецца, абувае валёнкі, апранае кажух і бярэ з-пад лаўкі сякеру...

— Кусі, Галус! Вазьмі!—скуе Лявонка!

Ірвануўся Галус. Загудзеў ланцуг. Ня вытрымаў нашыйнік, парваўся. Сабака, атрымаўшы волю, зароў, завыў, кінуўся за хлявы, на гароды.

Неўзабаве пачуў Лявонка, як сабака перастаў брахаць, завурчэў, заскуголіў. Разам з гэтым забрахалі і другія сабакі ў калгасе.

— Вазьмі! Кусі!—крычаў Лявонка і выбег на гарод з сякерай.

Сьнег... Гарацъ зоры... Крокаў за трыста ад хлявоў віднеюцца дзьве цёмныя плямы. Лявонка ведае, што гэта ня кусты, ня пні, бо скачуць з месца на месца плямы. Гэта Галус схапіўся з ваўком. Шкада стала Лявонку сабакі, злосьць узяла на ваўка. І не пабаяўся хлапчына, пабег на ратунак...

— Задушыць сабаку, зьвяруга! Задушыць!—гаворыць ён сам сабе, а ў сярэдзіне, здаецца, усё загарэлася.

Падбег. Галус ляжыць на сьнягу пад ваўком. Зьвер



учапіўся яму ў гарляк ікламі. Храпе сабака, упёрся нагамі ў жывот ваўку, хоча скінуць яго.

— Ату! А-а-а-ту! Туга-ааа!—крыкнуў Лявонка.

Воўк спалохаўся. Выпусьціў гарляк сабакі, падціснуў хвост, сагнуўся і пабег. Галус пасьмялеў. Дагнаў ваўка, учапіўся за сьцягно. Воўк агрызнуўся. Галус сеў верхам на зьвяругу. Пачаў ірваць за карак яго, але воўк хутка зноў падгарнуў пад сябе сабаку, схапіў зноў за гарляк.

А гэтым часам Лявонка падбег, размахнуўся сякерай.

— Ж-жа-а-ах!

Пырснула цёплая зьвярыная кроў на твар Лявонку. Пакаціўся воўк з расьсечанай шыяй. Галус зноў верхам сеў на зьвера. Але воўк жывучы, хутка справіўся, падгарнуў пад сябе сабаку. Лявонка яшчэ размахнуўся сякерай.

— Жа-а-ах! Жах!

Воўк ужо болей ня ўстаў.

Раніцай быў выяўлены новы падкоп пад калгасны хлеў.

Калі Лявонка прынёс шкуру ваўка здаваць у краму, там доўга хвалілі яго.

— Ну, і малайчына, Лявонка! Малайчына! Сапраўдны зьвералоў!

Яму заплацілі за шкуру сорак руб., апрача таго выдалі прэмію і запісалі Лявонку ў паляўнічыя.

# ПРЫГОДА НА ГРАНІЦЫ

**Аб тым, як лыжнік-піанэр трапіў у бандыцкія лапы... І што з гэтага вышла.**

**Па гэтых малюнках складзеце самі апавяданьне.**

**Апавяданьні прысылайце ў рэдакцыю. Старайцеся напісаць як найлепш (ясна, зразумела, граматна). Прозьвішчы тых, хто добра напіша, будуць надрукаваны ў часопісі.**







# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

на 2-хтыднёвую ілюстраваную
акцябрацкую часопіс

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| а 1 месяц | (2 нумары) — | | 35 | кап. |
| „ 3 „ | (6 нумароў)—1 | руб. | 05 | „ |
| „ 6 „ | (12 нумароў)—2 | „ | 10 | „ |
| „ 1 год | (24 нумары) —4 | „ | 20 | „ |

**ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ І ЛІСТАНОСЦАМ**

**Вокладку малëваў мастак Паўлоўскі.** *На першай старонцы: героі камунары змагаюцца з буржуазіяй. На чацьвертай: камунары разбураюць Вандомскую Калёну (помнік). Помнік гэты быў пастаўлен буржуазіяй у 1806 годзе ў адзнаку перамог Францыі над другімі краінамі (слабейшымі). Разбураючы Вандомскую Калёну, камунары даводзілі гэтым, што яны змагаюцца не за славу краіны, а за вызваленьне працоўных з пад уціску буржуазіі.*

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна Зак. № 867. 6875 экз. Менгарліт № 1440

